# ЗЬМЕСТ



---

**МАЛЮНАК НА ВОКЛАДЦЫ:**

**Стада галандзкіх кароў саўгасу „Средняя Рагатка“ (Ленінградзкая вобласьць).**

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!*

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

| Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | № 5—САКАВІК—1931 | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ |
|---|---|---|



# Выканаць праграму сацыялістычнай жывёлагадоўлі

**ТОЛЬКІ НА БАЗЕ САЎГАСАЎ І КАЛГАСАЎ МАГЧЫМА ВЫРАШЫЦЬ ПЫТАНЬНЕ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ. ШЫРЭЙ ФРОНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ БЯДНЯЦКА-СЕРАДНЯЦКІХ ГАСПАДАРАК!**

## УЗДЫМ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ—АДНА З ВАЖНЕЙШЫХ ЗАДАЧ ВЕСНАВОЙ ПАСЕЎКАМПАНІІ

У жорсткай барацьбе з клясавым ворагам—кулацтвам, у барацьбе з яго правымі агентамі—правымі і „левымі“ апартуністымі—партыя дабілася на базе саўгасаў і калгасаў пасьпяховага вырашэньня збожжавай праблемы. Аб гэтым са ўсёй яскравасьцю паказалі вынікі хлебазагатоўчай кампаніі бягучага году, якія далёка перавысілі па свайму разьмеру загатоўкі любога з мінулых год.

Посьпехі, якія дасягнуты на збожжавым вучастку сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, далі партыі магчымасьць стварыць неабходныя хлебныя запасы і прыступіць к грунтоўнаму вырашэньню пытаньня жывёлагадоўлі на тых-жа сацыялістычных асновах—на базе савецкіх і калектыўных гаспадарак. У сваіх рашэньнях XVI зьезд нашай партыі даў наступную дырэктыву: *„забясьпечыць узьняцьце і ўзмацненьне раза віцьця жывёлагадоўлі шляхам перш з-ўсё арганізацыі спэцыяльных жывёлагадоўчых саўгасаў, аналёгічных збожжавым саўгасам, масавага стварэньня высокатаварных фэрм і хуткага вырашэньня кармавой базы“*.

Праграма сацыялістычнага будаўніцтва СССР на трэці рашаючы год пяцігодкі, якая намечана сьнежаньскім пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б)—адводзіць досыць значнае месца пытаньням далейшай арганізацыі савецкіх гаспадарак і калектывізацыі бядняцка - серадняцкіх мас вёскі. У намечанай пленумам ЦК і ЦКК праграме, побач з пытаньнямі збожжавай гаспадаркі—вызначаны пэўныя і цьвёрдыя заданьні і ў галіне жывёлагадоўлі. Пленум даў дырэктыву: *„стада „Жывёлавода“ давесьці да*

*2.800 тысяч галоў, стада „Сьвінавода“ да 1.900 тысяч галоў, стада „Аўцавода“ да 4,4 мільёна галоў; стада малочна-масьлянога трэсту—да 110 тысяч галоў.*

Разам з гэтым пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) адзначыў вялікія посьпехі ў галіне калектыўнай жывёлагадоўлі за апошнія тры гады. Калі абагуленае стада кароў у адносінах усяго пагалоўя кароў складала ў 1928 годзе—0,4 проціанты, а ў 1929 годзе—0,8 процанта, дык у 1930 г. абагуленыя ў калектыўных гаспадарках каровы складалі ўжо 6,6 процанта ўсіх кароў. „*Гэты зрух у галіне калектывізацыі жывёлы*,—адзначаецца ў пастанове сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б),—*побач з арганізацыяй буйных жывёлагадоўчых саўгасаў* (Жывёлавод, Сьвінавод, Аўцавод), *забясьпечвае шпаркае вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы*“.

Студзеньскі (1931 г.) пленум ЦК КП(б)Б па пытаньні аб сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і веснавой пасеўнай кампаніі адзначыў, што „*намечаныя тэмпы і задачы па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі (будаўніцтва калгасаў і саўгасаў) забясьпечваюць рашучыя зрухі па яе спэцыялізацыі ў напрамку разьвіцьця жывёлагадоўлі і ільна-канапель*“. І далей пленум цэнтральнага камітэту КП(б)Б указвае, што „*выкананьне гэтых задач і тэмпаў повінна быць забясьпечана ўсёй практычнай работай партарганізацыі*“.

Гэты-ж пленум ЦК КП(б)Б даручыў Народнаму Камісарыяту Земляробства і дасьледчым установам распрацаваць на працягу бягучага году пытаньне аб асноўных пародах буйнай рагатай жывёлы, якая ва ўмовах БССР дае найбольшую прадукцыйнасьць. Таксама прапанавана, у мэтах павялічэньня таварнасьці сьвіногa стада правесьці на працягу двух год мэтызацыю ўсяго стада. У галіне барацьбы з эпізоотыямі і хваробамі жывёлы, ЦК КП(б)Б даручыў Наркамзему, ВТПО і Белкалгасцэнтру—распрацаваць дасканалы плян мерапрыемстваў.

Усё гэтае паказвае на тое, якую аграмаднейшую ўвагу зварочвае партыя жывёлагадоўлі.

Але вырашэньне пытаньня жывёлагадоўлі патрабуе стварэньня кармавой базы. Плян на 1931 год намячае аграмадную праграму па стварэньні кармавой базы. Па Саюзу ССР павінна быць засеяна ў гэтым годзе 7 мільёнаў *га* кармавых траў, сілосных культур павінна быць засеяна 720 тысяч *га*. Перад Саюзным Наркамземам пастаўлена баявая задача—вытварыць 100 мільёнаў цэнтнераў сіласаваных кармоў. Пастановай калегіі Наркамзему БССР ад 21-га студзеня гэтага году намечана закласьці па Беларусі ў гэтым годзе 989 тысяч тон сіласу. Гэта задача вельмі грандыёзная па сваім разьмерам, асабліва прымаючы пад увагу, што сіласаваньне да гэтага часу знаходзіцца ў нас на вельмі нізкім узроўні разьвіцьця, хаця мінулы 1930 г. усётакі даў значныя зрухі ў гэтай справе. Заданьне па сіласаваньню на гэты год вялікае,—зьвязана з вялікімі затратамі, патрабуе аграмаднай увагі і напружанай працы,—але зусім абавязковым для таго, каб сапраўды па-бальшавіцку вырашыць пытаньне жывёлагадоўлі. Намечаныя пляны сіласаваньня ня толькі могуць быць выкананы, але і перавыкананы, трэба толькі мабілізаваць вакол гэтага пытаньня ўсю ўвагу калгаснікаў і савецкай грамадзкасьці. Пляны павінны быць выкананы як колькасна, так і якасна.

У нас у БССР, ажыцьцяўляючы генэральную лінію партыі, мы дабіліся вялікіх посьпехаў як у галіне саўгаснага будаўніцтва, так і ў арганізацыі калгаснага абагуленьня стада. На 1-е студзеня гэтага году мы ўжо мелі вылучаных 560 малочна-жывёлагадоўчых спэцыялізаваных калектыўных гаспадарак, у якіх абагулена 39.400 калгасных кароў; 586 спэцыялізаваных сьвінаводных калектыўных гаспадарак, у якіх пастаўлена 31.500 сьвінаматак. У 1931 годзе тэмпы арганізацыі жывёлагадоўчых гаспадарак будуць яшчэ больш бурныя. У спэцыялізаваных малочна-жывёлагадоўчых калектыўных гаспадарках колькасьць кароў будзе павялічана да 78 тысяч, якія павінны даць ня менш, як 50 тыс. тон малака. У спэцыялізаваных сьвінагадоўчых калектыўных гаспадарках



Электрыфіцыраваны хлеў у калгасе.

будзе пастаўлена 150 тысяч сьвінаматак і здадзена дзяржаве ня менш 210 тысяч адкормленых сьвіней для рабочага забесьпячэньня.

Пастаўленыя партыяй задачы па стварэньню высокатаварных фэрм могуць і павінны быць выкананы. Патрэбна толькі няўхільнае правядзеньне лініі партыі, бязьлітасная барацьба з правым апартунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, „левымі“ загібамі і прымірэнчымі адносінамі да ўхілаў.

На пасьпяховае выкананьне дырэктыў партыі па разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі трэба мабілізаваць сельскагаспадарчых рабочых і калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы. Арганізаваць сустрэчныя пляны калгасамі і саўгасамі ў галіне жывёлагадоўлі.

Кулацтва ўсімі мерамі стараецца сарваць пасьпяховае разгортваньне будаўніцтва сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Кулак, дзе сам, а дзе праз сваіх агентаў распаўсюджвае сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі шкодныя чуткі. І там, дзе адсутнічае, альбо слаба праводзіцца растлумачальная работа— кулак мае посьпех, там уноў уступаючыя ў калгас беднякі і сераднякі, падпаўшы пад кулацкую агітацыю, прадаюць сваю жывёлу, а некаторыя проста забіваюць на мяса. У некаторых мясцох ёсьць і такія злачынныя факты, калі абагуленая жывёла разбазарваецца, зьнішчаецца. А некаторыя праўленьні калгасаў перадаюць калгасьнікам цялят і парасят для ўласнага спажываньня.

*Рашучым чынам трэба пакончыць з такімі злачыннымі выпадкамі, якія, бязумоўна, робяцца пад уплывам кулацкай агітацыі.*

Партыйныя, савецкія, прафэсыянальныя арганізацыі павінны мабілізаваць на барацьбу з кулацтвам і яго агентамі ўсю ўвагу калгасьнікаў і беднякоў і серадняков-аднаасобнікаў. Апіраючыся на батрацка-бядняцкія масы калгасьнікаў, яшчэ шчыльней замацоўваючы саюз з серадняком, раённыя партыйныя арганізацыі павінны няўхільна ажыцьцяўляць лінію партыі на правядзеньне суцэльнай калектывізацыі, на аснове якой ажыцьцявіць лёзунг партыі аб ліквідацыі кулацтва, як клясы.

*Надыходзячая веснавая сяўба зьяўляецца рашаючай таксама і ў справе пасьпяховага розгортваньня буйнай сацыялістычнай жывёлагадоўлі.* У веснавую сяўбу павінны быць вырашаны самыя асноўныя задачы, ад якіх залежыць

далейшы лёс разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

У ліку першых—асноўнае месца займае *кармавое пытаньне*. Трэба цьвёрда памятаць, што ў *„цеснай сувязі з плянам разьвіцьця жывёлагадоўлі павінна быць забясьпечана поўнае выкананьне намечаных заданьняў у галіне стварэньня кармавой базы* (*сіласаваньне, засеў адпаведных культур і г. д.*) (з пастановы пленуму ЦК КП(б)Б). Пагэтаму кожны саўгас, кожны калгас, кожнае каапэрацыйнае аб'яднаньне да пачатку веснавой сяўбы павінны запасьціся неабходным насеньнем траў, караньплодаў і кармовага зярна і шляхам арганізацыі кармавой плошчы забясьпечыць сваё стада кармамі ўласнай вытворчасьці. У пляне пасяўной кампаніі трэба аддаць вялікую ўвагу пасьбішчам для буйнай рагатай жывёлы.

Для павялічэньня кармавых запасаў жывёлагадоўчыя гаспадаркі павінны таксама скарыстаць паравыя вучасткі, якія трэба занімаць віка-аўсянымі і іншымі сумесямі на зялёны корм. Вельмі вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на пасеў спэцыяльных культур для сіласаваньня. Трэба зараз ужо кожнаму саўгасу і кожнай калектыўнай гаспадарцы мець канкрэтны плян будаўніцтва новых сілосных вежаў і ям і падрыхтаваць належны будаўнічы матар'ял з тым, каб да пачатку сіласаваньня былі гатовы вежы і ямы.

Наступным пытаньнем пасьля кармавога выступае—*вырасьліваньне і захаваньне маладняка*. Да гэтага часу мільёны галоў цялят штодня забіваюцца на мяса ва ўзросьце ад 3-х тыдняў і вышэй. Такое гаспадараньне зьяўляецца, бязумоўна, разбурэньнем жывёлагадоўчай гаспадаркі дзяржавы.

У гэтую веснавую кампанію неабходна прыняць усе меры к таму, каб не дапусьціць да забою маладняк. Прыплод ад лепшай па прадукцыйнасьці жывёлы павінен быць вырашан для павялічэньня саўгаснага і калгаснага стада, а менш прыгодны для гэтай мэты павінен быць таксама вырашчан, выкармлен для прадажы мясазагатоўчым арганізацыям. Кожная саўгасная, калгасная і каапэрацыйная гаспадарка павінна цьвёрда памятаць, што барбарскі забой маладняка ў нясьпелым узросьце—злачынства перад дзяржавай.

Так як асноўная частка прыплоду атрымоўваецца ад нашай жывёлы вясной, таму і мерапрыемствы па захаваньні маладняка павінны ўвайсьці ў плян



Лепшыя быкі калгасаў на выстаўцы.



веснавых сельскагаспадарчых работ, як яго асноўная частка.

*Далей ідзе злучная веснавая кампанія.* Да гэтага часу ў большасьці стад ходзяць яшчэ малапрыметныя і недавырашчаныя вытворцы. Яны ў большасьці ня толькі ня могуць палепшыць, а, наадварот, пагаршаюць стада. Жывёлагадоўчыя калектыўныя гаспадаркі павінны прыняць усе меры к выбракоўцы нягодных вытворцаў.

К злучнай рабоце трэба дапускаць толькі ўхваленых мясцовым зоотэхнікам і вэтэрынарам вытворцаў. Саўгасы і калгасы павінны таксама з вясны прыняць меры, каб забясьпечыць сваё стада вытворцамі ад сваёй-жа вядомай прадукцыі жывёлы.

Адно з галоўнейшых месц у надыходзячую вясну павінна заняць *будаўніцтва абагуленых скотных двароў.*

На гэтым вучастку ў разгортваньні буйнай сацыялістычнай жывёлагадоўлі мы маем вельмі шмат недахопаў. Мы маем цэлы шэраг калектыўных гаспадарак, якія ў мінулым годзе будаўнічы сэзон прапусьцілі, зусім не клапаціліся аб будаўніцтве, дзякуючы чаму жывёла зазімавала ў дрэнных, неабсталяваных, неўцепленых хлявох. Таму ў гэтую вясну трэба ўлічыць усе недахопы мінулага году з тым, каб іх не паўтараць.

Намечаная праграма павялічэньня аграмаджанага стада ў 1931 годзе (а праграма гэтая будзе выканана) патрабуе вялікай увагі да будаўніцтва скотных двароў удасканаленага тыпу. Неабходна зараз ужо быць гатовымі к найбольш эканамічнай і рацыянальнай будоўлі. У ўноў будуемых скотных дварох буйнага тыпу павінны быць абавязкова прадугледжаны такія тэхнічныя дэталі, ва ўмовах якіх дарослая жывёла магла-б даваць высокую прадукцыю, а маладняк—правільна выхоўвацца.

Сур'ёзную трэба зьвярнуць увагу на абагульваньне другіх і трэціх кароў у ўноў арганізуемых калектыўных гаспадарках. Ні ў якім разе нельга дапускаць леташніх памылак, якія меліся шмат у якіх мясцох пры арганізацыі калгасаў, калі абагульваньне адкладвалася да пачатку сяўбы, да лета...

Абагульваньне рабочай і прадукцыйнай жывёлы павінна адбывацца побач з арганізацыяй самаго калгасу.

А між тым, ня гледзячы на маючыяся памылкі ў мінулым годзе, аб якіх ня раз указвалася і на старонках нашага друку і ў паказаных цэнтральных орга-

наў,—у некаторых раёнах паўтараюць мінулагодніх памылкі і сёлета. Узяць хаця-б, напрыклад, Лепельскі раён. Там калектывізацыя даходзіць да 40 процантаў усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак раёну, але калі паглядзець, як у гэтым раёне ідзе абагульваньне жывёлы ў уноў арганізаваных калгасах, дык тут мы маем зусім дрэннае становішча. Шмат ёсьць такіх калгасаў, у якіх ня створаны насенныя фонды і не абагулены другія каровы і нават коні. Такія-ж выпадкі маюцца і па некаторых іншых раёнах.



Электрычная дойка кароў.

Неабходна зараз-жа зьнішчыць маючыяся недахопы ў арганізацыі калгасаў. Партыйныя, савецкія і калгасныя арганізацыі павінны сапраўды па-бальшавіцку ўзяцца за кіраўніцтва калгасным рухам, за пашырэньне яго, за арганізацыю новых калектыўных гаспадарак на аснове шырокага разгортваньня масавай работы сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

Трэба толькі памятаць, што жывёлагадоўля, як адна з асноўных галін народнай і сельскай гаспадаркі Савецкага Саюзу патрабуе да сябе зараз выключнай увагі. Праца па падняцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі павінна праводзіцца пры шырачэзнай мабілізацыі ўвагі ўсіх сельскагаспадарчых рабочых, калгасьнікаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці.

Але *„было-б, аднак, у корні няправільным думаць, што гэтыя грандыёзныя задачы могуць быць вырашаны „самацёкам“, „стыхійна“. На шляху вырашэньня гэтых задач стаяць вялікія цяжкасьці, праадоленьне якіх патрабуе вялічэзнай арганізаванасьці і дысцыпліны, рашучага паляпшэньня якасьці работы ўсіх зьвеньняў работы дзяржаўнага, гаспадарчага і каапэрацыйнага апаратаў, рашучага ўнядрэньня ў гаспадарчае разьвіцьцё плянавага пачатку і плянавай дысцыпліны, далейшага росту актыўнасьці і працоўнага пад'ёму шырачэзных мас працоўных (сацспаборніцтва, ударніцтва, сустрэчны прамфінплян)* (з рэзалюцыі пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б).

Толькі няўхільна, пасьлядоўна праводзячы генэральную лінію партыі, пабальшавіцку вядучы няпрымірымую барацьбу на два фронты, магчыма пасьпяхова вырашыць пастаўленыя партыяй задачы ў галіне жывёлагадоўлі.

С. Сямашка.

**„Умовай сапраўднай пасьпяховасьці веснавой сяўбы зьяўляецца сапраўднае ажыцьцяўленьне ўсімі калгасамі правіл разьмеркаваньня ўраджаю выключна ў адпаведнасьці з колькасьцю і якасьцю працы калгасьніка альбо яго сям'і“.**

*(З рэзалюцыі ЦК УсеКП(б) ад 20-I—31 г.).*

# ПАЛЕПШЫЦЬ ДАГЛЯД ЗА ЖЫВЁЛАЙ

(*Барысаўскі раён*)

Калгас імя Чарвякова мае 208 *га* пахаці, 50 *га* сенажаці і 15 *га* выгану. Пэўнай спэцыялізацыі калгас да гэтага часу ня меў. У гэтым годзе паводле заданьня райкалгассаюзу, калгас будзе спэцыялізавацца як малочна-гародны. У гэтым напрамку і праводзіцца падрыхтоўка калгасу да веснавой пасеўнай кампаніі.

У калгасе ўжо ёсьць досыць моцная база далейшага разьвіцьця калектыўнае гаспадаркі. У калгасе абагулена значная колькасьць жывёлы, 68 кароў і 17 цялят. Каровы звычайнай мясцовай пароды.

Улетку калгасьнікі пабудавалі вялікі і добры кароўнік. Каровы ўсе на прывязі, маюць простыя кармушкі. Догляд за жывёлай яшчэ належным чынам не наладжаны, але ён усё-ж лепшы, чым у аднаасобных гаспадараках. Спэцыяльных асоб, якія-б даглядалі за жывёлай, няма. Догляд, а таксама і даеньне кароў адбываецца па чарзе, па 1 месяцу. Аднак, ужо зараз сярод калгасьнікаў падымаецца пытаньне аб тым, каб для догляду за жывёлай вызначыць спэцыяльных, больш падрыхтаваных людзей. Гэта мерапрыемства, бязумоўна, прынясе вялікую карысьць.

За летні пэрыяд калгас здаў Барысаўскаму ЦРК малака на суму 1.300 р., апрача таго, усе калгасьнікі былі забясьпечаны малаком (у сярэднім па 120 літр. на сям'ю).

Сьвіней у калгасе 13 шт. і 2 кныры; сьвінаматак 6.

Досыць востра ў калгасе стаіць пытаньне з кармамі для жывёлы, для чаго неабходна рацыянальна і эканомна расходаваць тыя запасы, якія ў калгасе ёсьць. Сіласу няма. *У часе веснавой сяўбы неабходна прадбачыць павялічэньне плошчы пад кармавыя травы, кораньплоды.*

Сельскагаспадарчым інвэнтаром калгас забясьпечан недастаткова: адчуваецца недахоп плугоў і патрэба ў с.-г. машынах. Рабочых коняй у калгасе 22 шт., жарабят 5 шт. Палова коняй маласільныя, слабыя.

Найбольш увагі ў калгасе патрабуе справа арганізацыі працы. У калгасе да гэтага часу была зусім слабая працоўная дысцыпліна, ня было сваячасовага разьмеркаваньня і прызначэньня рабочае сілы на работу; ня было норм выпрацоўкі і г. д. Соцпаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасе не арганізаваны. Толькі ў часе ўборачнай кампаніі 1930 г. у калгасе была арганізавана ўдарная брыгада, якая дзён пяць працавала вельмі добра, а пасьля зноў, з прычыны адсутнасьці належнай арганізацыі працы і кіраўніцтва, рассыпалася. Калгасьнікі самі ўносяць прапановы выпрацаваць і ўвесьці нормы выпрацоўкі па розных відах працы у зьдзельшчыну.

Пытаньне кадраў, падрыхтоўкі арганізатараў працы і кіраўнікоў розных галін гаспадаркі зьяўляецца адным з сур'ёзных і вельмі важных пытаньняў у калгасе. Раённыя курсы па падрыхтоўцы кадраў, якія райкалгассаюз мае на мэце



Дойка кароў у калгасе на Сьміл[illegible]ўшчыне.

арганізаваць у студзені—лютым, у некаторай меры разьвяжуць гэта пытаньне.

У справе хлебанарыхтовак па здачы збожжа калгас выканаў заданьне на 100 проц. Па зяблеваму ворыву заданьне выканана на 58 проц.; заданьне па загатоўцы сіласу зусім ня выканана з прычыны спазьненьня і недахопу рабочых рук. Малацьба закончана 15-XII і таму разьмеркаваньне ўраджаю да гэтага часу і справаздач перад бядняцка-серадняцкімі масамі ня было. Праўленьню калгасу і ўсім калгасьнікам разам і пад кіраўніцтвам мясцовай партыйнай ячэйкі неабходна разгарнуць самую шырокую кампанію па ўзбуйненьні калгасу, па арганізацыі прыліву ў яго бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Навокал калгасу ідзе жорсткая клясавая барацьба. Кулакі і агенты іх імкнуцца ўсялякімі спосабамі разваліць калгас. Яны распускаюць розныя плёткі пра калгасы, застрашваюць найбольш адсталую частку калгасьнікаў і вёскі, а калі і гэта не памагае, калі яны бачаць, што калгас, ня гледзячы на некаторыя цяжкасьці і арганізацыйныя недахопы—усё-ж расьце і становіцца прыцягальным цэнтрам для бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, — тады яны ўночы з-за вуглоў выступаюць як забойцы лепшых калгасьнікаў. Так яны 16-XI 1930 г. уначы выстралам з абрэза забілі на пасту стоража калектыўнай маемасьці аднаго з лепшых калгасьнікаў т. Клімовіча.

Так у перадсьмертнай агоніі кулацтва імкнецца стрымаць непераможны рух новага сацыялістычнага жыцьця. Але дні кулацтва зьлічаны, яно як кляса вельмі хутка будзе ліквідавана на аснове суцэльнай калектывізацыі.

**В. Самцэвіч.**

## РАСЬЦЕ КАЛГАСНАЕ СТАДА

(*Ветрынскі раён*)

Калгас „Труд“ арганізаваўся ў 1928 г. на зямлі былога абшарніка. У яго ўвайшлі 11 гаспадарак, з якіх 7 батрацкіх. Шмат чаго прышлося пераажыць калгасьнікам, шмат было перашкод з боку кулацкай часткі вёскі, але калгасьнікі ўпарта працавалі.

Калгас, на сёнешні дзень, мае шмат посьпехаў, але ёсьць і недахопы. Перш за ўсё калгас вырас з 11 гаспадарак да 90. У час перагібаў адна гаспадарка толькі вышла з калгасу.



*З 15 кароў калгас вырас да 200 галоў, з 8 рабочых коняй на сёнешні дзень ёсьць 70 штук. З некалькіх галоў сьвіней калгас мае больш 200 галоў, будуецца сьвінарнік і г. д.*

У 1930 годзе калгас пабудаваў выключна сваімі сіламі, без дапамогі крэдытаў, дом на 6 кватэр, засіласаваў 2 ямы і пачаў будаўніцтва сілоснай вежы.

Як падсобныя прадпрыемствы калгас мае: саламарэзку, якая дае шмат карысьці як калгасу, так і інш. арганізацыям, замяняючы сабой салому ці гонт, за вынаходку якой сябра калгасу тав. Люцько прэміраваны. Ёсьць цагельны завод, пакуль што невялічкі, але пэрспэктывы на яго разьвіцьцё вялікія. Ёсьць вапеньніца, дзе паліцца вапна для будаўнічых мэт.

Але побач з гэтым калгас мае і недахопы. Вельмі слабы ў апошні час рост у калгасе, усяго за восень уступіла 4 гаспадаркі.

**Л. Сьмелы.**

# Змагацца за кожнае парася

**БУРНЫ ЎЗДЫМ СЬВІНАГАДОЎЛІ Ў САЎГАСАХ І КАЛГАСАХ ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ЛІКВІДАЦЫЮ МЯСНЫХ ЦЯЖКАСЬЦЯЙ Ў КАРОТКІ ЧАС.**



## ЛІКВІДАВАЦЬ ПРАРЫВЫ

БССР зьяўляецца передавой краінай у галіне сьвінагадоўлі—яна адна з першых прыступіла к выкананьню гэтай задачы і далёка шагнула наперад па перэробцы ўнівэрсальных спажывецкіх старых саўгасаў у сацыялістычныя сьвінаводныя фабрыкі мяса. Пры надзвычайных цяжкасьцях, у абстаноўцы жорсткай клясавай барацьбы, пачалася і праходзіць гэтая праца. Закладзены ўжо моцны фундамэнт. На справе пацьверджана правільнасьць генэральнай лініі партыі па сацыялістычнай рэканструкцыі жывёлагадоўлі. Вопыт передавых савецкіх гаспадарак, якія ня толькі выканалі, але і перавыканалі пастаўленыя перад імі задачы—лепш усяго пацьвярджае гэта.

Аб чым гавораць канкрэтныя вынікі?

Замест 54 саўгасаў, разгортваецца зараз 75. Але замест патрэбных 60.000 пахаці адведзена толькі 40.000 *га*, чым пастаўлены пад пагрозу плян камплектаваньня матак. Патрэбна было пабудаваць матачных месц 19.910, пабудована новых 7.590—38,1 проц. прыстасавана старых 9.763—49 проц., знаходзіцца ў стройцы 8.772—44 проц. Патрэбна было мець 20.000 матак, а сабрана на 1 студзеня 16.160. Да 20 савецкіх гаспадарак выканалі і перавыканалі пляны заданьня па маткам. Зьбіраюцца і растуць на працы тэхнічныя кадры здольныя змагацца за фабрыкі мяса.

**Аднак**, у пабудове сьвінасаўгасаў ёсьць ня толькі колькасныя недавыкананьні. У выкананьні пляну ёсьць буйныя прарывы якаснага парадку, наяўнасьць буйнай безгаспадарчасьці ўва ўсіх галінах. Шкодніцтва ў паасобных саўгасах (у будаўніцтве, укамплектаваньні, забесьпячэньні кармамі, нізкія якасныя паказчыкі, масавы адход парасят). Гэта тлумачыцца тым, што шмат якія работнікі

з саўгасаў проста ігнаруюць дырэктывы партыі і ўраду ў галіне барацьбы за фабрыкі мяса. Гэта тлумачыцца і неадпаведнасьцю тэмпаў і якасьцю работы самага „Сьвінавода“, Белкалгасбуду, прафсаюзных арганізацый і саміх саўгасаў у першую чаргу.

1931 год ёсьць сапраўды рашаючы год у стварэньні сацыялістычнае сьвінагадоўлі. Цэнтральнымі зьяўляюцца наступныя задачы: давядзеньне матачнага пагалоўя да 75.000 к 1/І-32 г., пашырэньне пасеўнай плошчы, здача першых дзесяткаў тысяч сьвіней, патраеньне праграмы грунтоўнага будаўніцтва, поўнай перадзелкі палявой гаспадаркі, прыстасаваўшы яе да абслугоўваньня запатрабаваньняў сьвінагадоўлі і ўсяе жывёлагадоўлі; максымальнага павышэньня ўраджайнасьці і інш. 1931 год патрабуе прымусіць сьвінагадоўлю служыць задачам сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя задачы могуць быць вырашаны толькі пры надзвычайнай напружанасьці. Гэта патрабуе безадкладнага пад'ёму рабочых калектываў саўгасаў на ліквідацыю прарываў, які ёсьць, на забесьпячэньне выкананьня задач 3-га рашаючага году пяцігодкі.

Перадавыя рабочыя калектывы: Вішнёўка, Банонь, Несята і інш. у адказ на задачы, пастаўленыя ў прамфінплянах ужо выступілі з сустрэчнымі прамфінплянамі за 12 таварных сьвіней, за перакрыцьцё другіх якасных паказчыкаў, за тое, каб штурмаваць, пакрыць асобныя прарывы 1930 г.

Гэта патрабуе перабудовы ўсёй работы гаспадарчых, прафсаюзных, камсамольскіх арганізацый, ячэек КП(б)Б у саўгасах, патрабуе забясьпечаньня выкананьня ўсіх мерапрыемстваў, якія дапамагуць вырашыць гэту цэнтральную задачу. Усе памянёныя арганізацыі павінны безадкладна забясьпечыць уключэньне ў паход за выкананьне прамфінпляну шырачайшых рабочых мас.

У якасьці цэнтральнай задачы Сьвінавода на 1931 год павінна быць пастаўлена ня толькі колькаснае выкананьне прамфінпляну, але забясьпечаньне высокіх якасных паказчыкаў работы, максымальна рацыянальнае выкарыстаньне 20 мільёнаў руб. на грунтоўнае укладаньне. Гэта патрабуе ад Сьвінавода, Саюзу Сельгасрабочых, Райкомаў і ячэек КП(б)Б забясьпечыць сапраўдную мабілізацыю рабочых калектываў вакол канкрэтных задач, пастаўленых партыяй перад сацыялістычнай сьвінагадоўляй. Разгарнуць шырачайшае сацыялістычнае спаборніцтва, ударніцкі рух ува ўсіх яго новых формах, перакрыць сустрэчнымі прамфінплянамі задачы 1931 г. і прарывы 1930 г., забясьпечыўшы паход за высокую таварнасьць праз поўную захаванасьць апаросу, за максымальны нізкі сабекошт, за перавышэньне ўсіх якасных паказчыкаў прамфінпляну. Арганізаваць рашучую барацьбу супроць шкодніцтва, безгаспадарчасьці, самацёку, дабіўшыся максымальнага росту вытворчасьці і якасьці працы.

У вырашэньні гэтых задач неабходна перш за ўсё з усёй сілай ухапіцца за зьвяно арганізацыі рабочае сілы, за умацаваньне маючыхся кадраў, за безадкладную вярбоўку і падрыхтоўку, праз усю сыстэму, курсаў, канфэрэнцый, экскурсій, завочнае абучэньне, шырачайшае разгортваньне сапраўды шырокай палітыка-выхаваўчай работы праз такую арганізацыю працы (брыгадны мэтад, зьдзельшчына, прэміраваньне на ўсіх рашаючых работах і ва ўсіх галінах гаспадаркі), што забясьпечыць максымальную вытворчасьць і найлепшую якасьць працы, як важнейшых рашаючых зьвеньняў па выкананьні прамфінпляну. Рост рабочае сілы з 3.000 да 8.000 патрабуе адказнай працы Саюзу Сельгасрабочых і камсамолу, рэальных мер вярбоўкі 2.000 батракоў і столькі-ж камсамольцаў для работы ў саўгасах Сьвінавода. Саўгасы за гэта зьвяно павінны ўхапіцца з усёй сілай і пры тым безадкладна. Гэтага патрабуе зьверху да нізу перабудова ўсёй работы самаго Сьвінавода і арганізацый, абавязаных разам з ім працаваць над выкананьнем пастаўленых партыяй задач. Перанясеньне цэнтру цяжару працы непасрэдна ў саўгасы, забесьпячэньне сапраўды жывога, гібкага, чоткага кіраўніцтва саўгасамі, укамплектаваньне іх кадрамі, здольнымі змагацца за лінію партыі, прадстаўленьне



максымальных праў і адказнасьці непасрэдна саўгасу, яго трыкутніку, за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, замест бумажнага бюракратычнага кіраўніцтва, безадкладна ажыцьцёвіць канкрэтны пераход к двухзьвеннай сыстэме кіраўніцтва, стварыўшы моцныя ўдарныя прамежныя дружыны жывой дапамогі саўгасам.

Разгорнутае пад кіраўніцтвам партыі наступленьне па ўсім фронце патрабуе на справе праводзіць будаўніцтва ўсю зіму, калі патрэбна ня толькі ўдзень, але і ноччу. Трэба рэзка біць і яшчэ раз біць па настроях (а ў большасьці гэтыя настроі перарасьлі ў практыку) адпачыць, па жаданьнях пакінуць работу на зіму. Наадварот, усе задачы ўкамплектаваньня, якія насоўваюцца—масавыя апаросы—патрабуюць рашучага разгортваньня, безадкладнага павялічэньня колькасьці рабочай сілы на пабудовах, ударнага разгортваньня вывазкі будаўнічых матар'ялаў з тым, каб была поўнасьцю выкарыстана санная дарога, каб за зімні час былі максымальна нарыхтаваны мясцовыя будаўнічыя матар'ялы. Становішча ў гэтай частцы зараз не адпавядае дырэктывам партыі.

Цэнтральнай задачай зьяўляецца на сёнешні дзень поўнае захаваньне апаросаў, а ў гэтым ляжыць залог посьпеху выкананьня норм Сьвінавода і сустрэчных 12 таварных за два апаросы. Па ранейшаму захоўваць у цэнтры ўвагі і забясьпечыць на справе выкананьне ўсіх зоотэхнічных і вэтэрынарна-санітарных запатрабаваньняў, забясьпечыць належны ўход за сьвіньнямі і рэальную барацьбу з эпізоотыямі, што будзе зьяўляцца рэальным сродкам барацьбы са стратамі ў сьвінагадоўлі.

Разгорнутае сацыялістычнае наступленьне патрабуе фарсіраванай падрыхтоўкі к вясеньняй сельскагаспадарчай кампаніі, безадкладнай перадачы прыгодных дадаткова 20.000 *га* пахатных зямель, бязумоўнага выкананьня пасеўных плянаў, прынятых прамфінплянамі і календарных тэрмінаў, устаноўленых ЦК КП(б)Б і Саўнаркомам. Максымальная плотнасьць сьвінаматак патрабуе сапраўды ўпорнай барацьбы за пашырэньне пасеву, за сапраўды высокую ўраджайнасьць.

Бальшавіцкая вясна патрабуе бальшавіцкіх тэмпаў. Між тым матар'ялы, якія маюцца ў Сьвінаводзе, дасьледваньні—

паказваюць, што яшчэ няма пералому ўва ўсіх саўгасах, што яшчэ няма ўпартай барацьбы за канкрэтныя мерапрыемствы, забясьпечваючыя посьпех сяўбы, што шэраг саўгасаў значна адстае ў выраашэньні пастаўленых задач.

Саўгасы не закончылі рамонт машын. Халоўе, Васільеўск, Дрыбін, яшчэ не распачалі гэтае работы. Яшчэ не разгорнута работа па падрыхтоўцы рабочых кадраў, не мабілізуюцца ўнутраныя рэсурсы на максымальны ўздым ураджайнасьці (попел, торф і інш.). Гэта нецярпіма. Рабочыя калектывы саўгасаў павінны самі паставіць пад свой пралетарскі кантроль увесь ход падрыхтоўкі. У саўгасах павінны быць створаны штабы з удзелам прадстаўнікоў партячэек і прафсаюзаў за безадкладнае разгортваньне работы па поўнай гатоўнасьці к веснавому севу.

Саўгасы павінны шырока забясьпечыць дапамогу калгаснаму будаўніцтву, перадаючы свой вопыт стварэньня спэцыялізаваных мясных фабрык, аказваючы непасрэдную дапамогу калгасам. Саўгасы павінны з максымальнай паўнатой выкарыстаць дапамогу Інстытута Сьвінагадоўлі па барацьбе за выкананьне зоовэтмінімуму па захаваньні апаросаў, за максымальнае палепшаньне ўтрыманьня і ўходу. За жыцьцё кожнага парасяці павінны змагацца сьвінары і ўся саўгасная грамадзкасьць, адміністрацыйна-тэхнічны пэрсанал, які за кожны цэнтнер мяса, прымаючы безадкладныя меры супроць нядбайнікаў, арганізуючы грамадзка-паказальныя суды, выганяючы, дабіваючыся суровага суда шкоднікам, усяляк дапамагаючы лепшым ударнікам у іх змаганьні за задачы сьвінагадоўлі.

Пад кіраўніцтвам партыі задачы стварэньня сацыялістычных, высока таварных фабрык мяса, павінны і будуць выкананы.

**Т. Аўчыньнікаў.**

# ПРАВІЛЬНЫ ЎХОД ЗА ПАРАСЯТАМІ

Сьвінагадоўчыя саўгасы і калгасы павінны зьярнуць вялікую ўвагу на выхаваньне маладняка, бо толькі дзякуючы правільнаму догляду за парасятамі і маткай можна пазбавіцца страт у сьвіным статку, якія зараз ёсьць.

Прыблізна за тыдзень да апаросу матку неабходна зьмясьціць у асобнае памяшканьне. Гэтае памяшканьне павінна быць папярэдне падрыхтавана. Перш за ўсё яго неабходна добра ачысьціць ад старой подсьцілкі, абмесьці столь і сьцены і вымыць кармушкі гарачай вадою з шчолакам.

Пасьля таго, як памяшканьне досыць прасохне, кладзецца новая подсьцілка. Ні ў якім разе ня трэба ўжываць для подсьцілкі аўсяную салому. Яна ўбірае ў сябе шмат вадкасьці і хутка загнівае, а гэта вельмі небясьпечна.

Перад пераводам у асобнае стойла матку неабходна вымыць цёплай вадою з мылам і насуха абцерці. Адначасова з аддзяленьнем ад іншых сьвіней трэба пачаць збаўляць матцы норму сутачнай дачы корму, даводзячы яе да моманту радоў да палавіннай колькасьці. Корм можна даваць толькі ў вадкім выглядзе. Як толькі зьявяцца прызнакі наступленьня радоў, над маткай неабходна ўстанавіць суровае назіраньне, не пакідаючы яе ні на адну хвіліну, інакш яна можа паесьці сваіх парасят, як гэта здараецца з некаторымі сьвіньнямі, ды і наогул пры радох прысутнасьць чалавека неабходна.

Пры прыёме парасят ім належыць перавязаць пупавіну на адлёгласьці 3-5 сантымэтраў ад жывата і абрэзаць крыху ніжэй перавязкі. Краі пупавіны трэба добра змазаць ёдам. Парасяты насуха абціраюцца і складаюцца ў скрынку ці карзінку, высланую войлакам, шэрсьцю ці простым рызьзём.

Калі роды зацягваюцца доўга (3—4 гадзіны) першых уноўнароджаных парасят кладуць каля маткі, пры ўмове, калі сьвіньня ляжыць спакойна. Бываюць выпадкі, калі парасяты родзяцца амаль няжывымі. Тады парасятам трэба зараз-жа абчысьціць ноздры ад сьлізі і зьлёгку ўдарыць парася ў бок. Калі парасё жывое, яно пачне дыхаць.

Часам парасяты родзяцца з вельмі вострымі зубамі, дзякуючы чаму пры ссаньні вельмі непакояць матку, асабліва маладую—першародную.

Зубы ў такіх парасят неабходна зрэзаць вострымі шчыпцамі на палову іх даўжыні. Зразаньне павінна праводзіцца з вялікай асьцярожнасьцю і зрэзаць трэба толькі вострыя зубы.

Па сканчэньні апаросу посьлед (месца) павінен быць прыбраны са стойла, інакш сьвіньня зьесьці яго, а потым можа зьесьці і парасят. Забруджаная і акрываўленая подсьцілка прыбіраецца і разам з посьледам закопваецца ў зямлю. Пасьля прыборкі насьцілаецца сьвежая подсьцілка.

У першыя суткі пасьля радоў сьвіньні даваць корм ня варта. Можна даваць толькі чыстую, крыху цёплую ваду. На другі дзень у цёплую ваду прыбаўляецца паўкілёграма мукі ці вотрубаў.

Дача корму з кожным днём павялічваецца і ўжо на 5—6 дзень даецца поўная норма.

Калі ў сьвіньні пасьля радоў не аказваецца малака (гэта часам здараецца), дык парасят належыць пачаць карміць цёплым кароўім малаком праз кожныя дзьве гадзіны і ў невялікай колькасьці.

Аграном **С. Н—н.**



**„Пасьля збожжавай проблемы, на шляху вырашэньня якой партыя дабілася першых сур'ёзных посьпехаў, мясная проблема зьяўляецца найважнейшай задачай экономічнай політыкі партыі і савецкай улады...“**

*(З пастановы ЦК УсеКП(б).*



# Увага каню!

„Маючы на ўвазе, што спалучэньне трактару з коньмі на палявых работах будзе мець месца яшчэ шэраг год, неабходна дабіцца беражлівых адносін да каня і стварэньня ў адпаведных раёнах спэцыяльных саўгасаў і таварыстваў каняводнага напрамку“.

(З рэзалюцыі XVI зьезду УсеКП(б).

## ВЫКАНАЕМ ПЛЯН НА 1931 ГОД

Кулацкая агітацыя і надзеі на трактар прывялі к шкоднейшай недааацэнцы каня асобнымі райкалгассаюзамі і калгасьнікамі. У выніку чаго мы мелі і да гэтага часу яшчэ маем імкненьне,—пад усялякімі мотывамі (бракоўка, бяскорміца, замена каня трактарамі і г. д.)—збыць працаздольнага каня, пакідаючы гаспадарку без неабходнейшай цягавай сілы і гэтым самым садзейнічаючы кулаку, які ўсімі мерамі імкнецца пашкодзіць пасьпяховай падрыхтоўцы к веснавой сяўбе і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Досыць паказаць на тое, што ў 1930 г. па калгаснаму сэктару БССР удзельная вага трактарнай цягі ў конскіх сілах, да ўсёй цягавай сілы, складала 6 процантаў, а гэта пераконвае нас у шкоднасьці недааацэнкі каня. Той факт, што ўдзельная вага трактараў у калгасным сэктары, згодна намечанаму пляну на 1931 год, будзе раўняцца 18 процантам да ўсёй цягавай сілы 1930 г., гаворыць нам аб вялікіх тэмпах мэханізацыі сельскай гаспадаркі. Але ўсёроўна конь у сельскай гаспадарцы яшчэ больш, ці менш доўгі час будзе ўжывацца адначасна з трактарам, дапаўняючы адзін другога ва ўмовах буйнай абагуленай, з кожным годам усё больш інтэнсіфіцыруючай, гаспадаркі.

Акрамя таго, значэньне каня, як гужавога транспорту ў гарадох і прамысловасьці і яго значэньне ў Чырвонай арміі настолькі вялікае, што няшчадная барацьба за аднаўленьне колькасьці, за ўсямернае паляпшэньне якасьці каня зьяўляецца абавязкам усёй калгаснай і савецкай грамадзкасьці. Адгэтуль выцякаюць і задачы і зьмест нашай работы ў гэтым напрамку (глядзі пастанову Белкалгасцэнтру ад 9-XII 1930 г. і пастанову СНК БССР ад 25-XII-30 г.

*Канкрэтны плян мерапрыемстваў па каняводзтву ў калгасах на 1931 г., і шляхі яго ажыцьцяўленьня.*

Лёзунгам сёняшняга дню павінна быць „Увага каню!“ Нам трэба дабіцца, каб сярэдняя нагрузка на 1 каня ў калгас-

ным сэктары, пры сучаснай яе нізкай якасьці з 7,70 *га* была зьніжана хаця-б да 7 *га* пахаці. Удзельную вагу маладняка з 15 процантаў, у адносінах да ўсяго пагалоўя коняй, павысіць хаця-б да 25 процантаў, без чаго немагчыма нармальная выбракоўка.

У якасных адносінах нам патрэбен больш моцны, больш шпаркі, больш выносьлівы конь. Розт ад 143 *сант* і ніжэй, жывы вес ад 500 *кг* і ніжэй зьяўляецца тыпычным для пагалоўнай масы нашага конскага складу—здаволіць ня могуць ні запатрабаваньняў буйнай сацыялістычнай гаспадаркі, ні запатрабаваньняў Чырвонай арміі. Такія коні зьяўлаюцца перажыткам дробнай аднаасобнай гаспадаркі. **Толькі** *ва ўмовах буйнай абагуленай гаспадаркі мы можам вырасьціць патрэбнага для нашай работы, для нашага жыцьця, для нашай барацьбы каня.*

Плянам на 1931 год прадугледжваецца:

1) Арганізацыя гнёзд па паляпшэньні каня—20 у кожным саўгасе, з якіх будзе па 25 матак і па 1 жарабцу.

2) Арганізацыя злучных пунктаў з жарабцоў, якія будуць куплены к злучнаму сэзону 1931 г.—па аднаму жарабцу ў злучным пункце, а ўсяго—75.

3) Арганізацыя злучных пунктаў з жарабцоў, адпускаемых для калгаснай сыстэмы дзяржканюшняй НКЗ па 1 жарабцу на пункт—50 пунктаў.



Жарабец з саўгасу.



Жарабец Гомельскага дзяржзаводу.

4) Арганізацыя злучных пунктаў з маючыхся ў калгасах адабраных жарабцоў, якіх маецца па вескам з месц—450.

5) Арганізацыя выхавальнікаў па вырашчваньні конскага маладняка на 1250 галоў—15 выхавальнікаў.

6) Закупка рабочых коняй для замены рабочых валоў і папаўненьне цягавай сілы ў калгасах—2500 галоў.

7) Пабудова канюшань і дзяньнікоў на 5550 галоў.

8) Падрыхтоўка кадраў для злучпунктаў—2-месячныя курсы пры Гомельскай дзяржканюшні—50 калгасаў і ўвядзеньне ў праграму курсаў у раёнах—цыклю лекцый па каняводзтву.

Імкненьне калгаснай грамадзкасьці ня толькі выканаць, але і перавыканаць гэты плян. Сама структура буйнай сацыялістычнай гаспадаркі мае к таму ўсе магчымасьці, напрыклад:

1) Стварэньне брыгад конюхаў з лепшых калгасьнікаў, якія-б на аснове метадаў сацыялістычнага спаборніцтва—на 100 процантаў выканалі-б:

а) інструкцыю аб правільным уходзе і нескарыстаньні злучных жарабцоў;

б) інструкцыю аб правільным кармленьні, паеньні і чыстцы ўсяго конскага складу ў калгасе;

в) беражны правільны догляд з коньмі, асабліва з цяжарнымі маткамі і маладняком, дабіваючыся абсалютнай адсут-

насьці выпадкаў выкідашаў, захворваньня і падзяжу;

г) сваячасоваю сыгналізацыяю захворваньняў, ізаляваньнем хворай жывёлы ў ізалятары (асобныя памяшканьні ад усіх іншых коняй) безадкладна паведамляючы аб выпадках захворваньня вэтпэрсанал.

2) Актыўны ўдзел у працы камісій па выбракоўцы коняй у парадку грамадзкага кантролю; сочачы за точным выкананьнем інструкцыі НКЗ БССР аб забароне ўбою працаздольных коняй.

3) Правільная арганізацыя цягавай сілы шляхам разьмеркаваньня ўсіх маючыхся ў калгасе коняй на катэгорыі: а) *для цяжкай працы* (укормленыя і зусім працаздольныя), б) *для сярэдняй працы* (жаробныя маткі да 7-месячнай цяжарнасьці, змораныя па старасьці і хваробе і г. д.), в) *для лёгкай работы*—(вельмі змораная жывёла, цяжарная матка ад 7 да 9 месяцаў цяжарнасьці), г) *поўны адпачынак* — (жарабныя маткі пасьля 9 месяцаў цяжарнасьці і хворыя коні).

4) Стварэньне фуражных фондаў на час прадвясеньняй і вясеньняй кампаніі 1931 г., на аснове дырэктывы Белкалгасцэнтру ад 7-I 1931 г., і іх рацыянальнае скарыстаньне. Мабілізацыя ўнутраных кармавых рэсурсаў (замена саломы іншымі відамі подсьцілкі—торф, кастра, апілкі і г. д., 100-процантнае скарыстаньне кармовых адкідаў крухмальных заводаў, млыноў, крупарушак, боень і г. д., выконваючы заогігіену пры кармленьні гэтымі адкідамі. Арганізацыя правільнага кармленьня па нормах (групавое і індывідуальнае). Задаваньне корму коням не пазьней як за 2 гадзіны да работы, рабіць мешанку аўса з рэзаной саломай, што паляпшае процэс пераважоўваньня і ўсваеньня корму, пабудова кармушак і інш.



Жарабец Гомельскага дзяржзаводу.

5) Сваячасовая вывазка лесаматар'ялаў для будаўніцтва новых канюшань і арганізацыя брыгад плотнікаў для іх пабудовы. Прыстасаваньне для канюшань маючыхся памяшканьнаў шляхам іх асьвятленьня і ацяпленьня.

Аграном **В. Круглоў**.

## БЕРАЖЭЦЕ ЖАРАБЯТ АД МЫТУ

У маладым узросьце да 5 год—конь звычайна падпадае захворваньню мытам.

Хвароба гэтая для большасьці не прадстаўляе небясьпекі, калі яна праходзіць без асклажненьняў. Але занос заразы ва ўнутраныя органы цяжка адбіваецца на арганізьме жывёлы і ў гэтых выпадках часта хвароба канчаецца сьмерцю.

Адзнакі мыту наступныя: у жывёлы зьяўляецца катар і опухаль залоз пад сківіцамі. Праз некалькі дзён робіцца нарыў, часам такія нарывы бываюць пад вушамі, а часам на шыі і на суставах.

Каня, захварэўшага мытам, неабходна трымаць у цёплым, але ня душным памяшканьні. Пасьля ўскрыцьця нарыву штодзенна трэба выціскаць гной і пасьля прамываць дэзынфэкуючым 3-процантным растворам крэаліны ці наварам дубовай кары напалову з дзягцярнай вадою.

Карміць захварэўшую жывёлу неабходна самым легкім і далікатным кармам. З прычыны небясьпекі ў апрадзяленьні і адрозьніваньні мыту ад сапа, захварэўшага мытам каня трэба паказаць вэтэрынарнаму ўрачу.

Вэтурач **Д—ў**.



Ударнік тав. Дзяменьцеў. 40 год батрацкага стажу, ўзнагароджан пачэснай граматай (Кінгісэпскі раён. Ленобласьць).

# ПАШЫРЫМ КАРМАВУЮ БАЗУ

„У ЦЕСНАЙ СУВЯЗІ З ПЛЯНАМ РАЗЬВІЦЬЦЯ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ ПАВІННА БЫЦЬ ЗАБЯСЬПЕЧАНА ПОЎНАЕ ВЫКАНАНЬНЕ НАМЕЧАНЫХ ЗАДАНЬНЯЎ У ГАЛІНЕ СТВАРЭНЬНЯ КАРМОВАЙ БАЗЫ (СІЛАСАВАНЬНЕ, ЗАСЕЎ АДПАВЕДНЫХ КУЛЬТУР І Г. Д.“).

*(З пастановы пленуму ЦК КП(б)Б).*

## СЕЙЦЕ КАРМАВЫЯ КУЛЬТУРЫ

Штогодна мы наглядаем у нашай сельскай гаспадарцы нястачу кармоў, што вельмі хваробна адбіваецца і на становішчы ўсяе гаспадаркі; у гэтым-жа годзе кармовы балянс таксама мае вялікі дэфіцыт, бо, значна павялічыўшы ў калгасах, саўгасах статка жывёлаводзтва, мы ня здолелі цалкам падрыхтаваць кармовыя рэсурсы, і цэлы шэраг калгасаў і саўгасаў з кармовым забесьпячэньнем знаходзяцца ў дрэнным становішчы.

Усе гэтыя факты гавораць аб пашырэньні ў надыходзячую веснавую сяўбу засеву кармовых культур і ўзмацненьні правядзеньня іншых мерапрыемстваў, вырашаючых кармовае пытаньне.

Паляпшэньне сенажацяй і засеў мэліараваных плошчаў ёсьць амаль грунтоўнае мерапрыемства ў асобных гаспадарках, якія маюць ня поўную норму мінэральнай глебы.

Практыка дасьледваньняў нашых дасьледчых балотных і лугавых устаноў і іншых мэліарацыйных таварыстваў, калгасаў і саўгасаў ужо далі пэўныя адказы на напрамак і каштоўнасьць гэтых мерапрыемстваў, чаму нам застаецца гэтыя дасягненьні і іх вопыт у надыходзячую веснавую сяўбу скарыстаць і перанесьці ў практыку адстаючых гаспадарак. З працы гэтых гаспадарак вядома, што тыя сухадолы, якія з кожным годам выраджаюцца і памяншаюць ураджайнасьць пад уплывам пасяленьня моху, або абядненьня глебы, яны (у сэнсе спажыўнасьці) могуць даць вялікія ўраджаі добрага сена да 30 цнт. (павярхоўнае палепшаньне) і 60 цнт. (грунтоўнае палепшаньне), калі на іх будзе зьвернута асаблівая ўвага. Сухія ападзоленыя сенажаці 1—3 году трэба перааараць, як мінэральныя глебы, а сенажаці, зарастаючыя мохам, рана з вясны добра прабаранаваць (з мэтаю зьнішчэньня моху) і ўгноіць. А таксама, бязумоўна, павялічаць ураджайнасьць і тыя сенажаці, якія будуць расчышчаны ад хмызьняку, куп'я, карчоў.

Акрамя гэтага, добра вядома, што асушаныя балотныя глебы даюць яшчэ большы эфэкт пры іх культываньні, пры чым напрамак культываньня мае вялікае значэньне. З вопытаў, якія ёсьць, трэба лічыць, што асушаныя балотныя глебы ў асноўным па сваёй прыродзе павінны зьявіцца кармовымі базамі і *культура кармовых расьлін на асушаных балотных глебах павінна знайсьці найбольшае разгортваньне.*

Штучная сенажаць павінна заняць адно з першых месц, бо вытворчасьць яе дасягае да 100 цэнтнераў з *га* высокаўкоснага сена (з 2-х укосаў).

Другой даволі пасьпяховай кармовай культурай на балотных глебах зьяўляецца бульба, ураджайнасьць якой дасягае да 250—300 цэнтнераў на *га*. Апрача таго, яна дае даволі вялікую масу батвы, якая з посьпехам можа быць у першай палове верасьня скошана і скарыстана як сіласны матар'ял. Досьледы Забалацкай Балотнай дасьледчай гаспадаркі паказалі, што ўраджайнасьць бульбы на балотнай глебе амаль зусім не памяншаецца.

З другіх кармавых расьлін трэба ўказаць на сіласныя расьліны, з якіх асобную пасьпяховасьць выяўляе кукуруза і сланечнік, якія даюць ураджай да 400 цнт. сырой масы з *га*. Добрым кормам зьяўляюцца і кармовая бручка, морква і турнэпс, ураджай якіх да 250 цнт. (морква 600 цнт.) з *га*.

Паказаныя кармовыя расьліны ёсьць найбольш вывучаныя, найбольш пасьпяховыя на мэліараваных землях, таму для іх і трэба павялічваць плошчы засеву. Уся-ж веснавая кампанія ў культуртэхнічных працах павінна праходзіць у напрамку найбольшага павярхоўнага палепшаньня сенажацяй, грунтоўнага паляпшэньня сухадолаў і поўнага засеву асушаных балотных глеб, для чаго на мясцох трэба:

1) Зьвярнуць увагу грамадзкасьці на кармавую праблему—мабілізаваўшы вясковы актыў па выпаўненьню мэліарацыйных заданьняў аграмінімуму (павярхоўнае палепшаньне сенажацяй).

2) Накіраваць з вясны трактары для ўзорваньня вырадзіўшыхся сухадолаў і асушаных балотных глеб, бо вялікая плошча асушаных тарфянікаў засталася ня ўзворанай толькі з-за адсутнасьці трактароў (Парыцкі раён і г. д.).

3) Усе маючыяся запасы калійных угнаеньняў у першую чаргу скарыстаць на тарфяніках, а таксама забясьпечыць тарфянікі належным пасеўматар'ялам.

4) Шырока мабілізаваць увагу грамадзкасьці і зэмпрацаўнікоў на зборы попелу і скарыстаньні яго на тарфяніках.

Бязумоўна, пры вырашэньні гэтых мерапрыемстваў і адначасова пры вырашэньні пытаньня пашырэньня кармовых расьлін на мінэральных глебах, будзе значна паляпшацца кармовая база, гэтым мы атрымаем поўную магчымасьць большага разьвіцьця жывёлагадоўлі—асноўнай галіны нашае сельскае гаспадаркі.

С. Ляўчэня.

## У час веснавой сяўбы арганізаваць кормаздабываньне ў жывёлагадоўчых калгасах

Першай умовай для таго, каб пасьпяхова разьвівалася вытворчая праца жывёлагадоўчых калгасаў, зьяўляецца правільная арганізацыя кармавой базы.

Пры арганізацыі жывёлагадоўчага калгасу перш за ўсё павінна быць точна ўстаноўлена: колькасьць рознай абагуленай жывёлы, налічча запасу натуральных кармавых угодзьдзяў і іншых зямельных плошчаў, колькасьць едакоў, налічча рабочай і цягавай сілы гаспадаркі.

Толькі ўстанавіўшы гэта, можна падзяліць патрэбную колькасьць розных кармоў у кожны час году, а адсюль і пераходныя плошчы пасеваў, выбраць севазварот, высьсьніць колькасьць рабочых рук і цягавай сілы.

Задача арганізацыі кармавой базы—ва ўвесь свой рост становіцца перад намі ў надыходзячую веснавую сяўбу.

Першачарговымі мерапрыемствамі па арганізацыі кармавой базы ў жывёлагадоўчых калгасах зьяўляюцца наступныя:

*1. Паляпшэньне натуральных сенажацяй і пасьбішч усімі даступнымі спосабамі.*

У сувязі з недахопам насеньня кармавых траў і караньплодаў, павышэньне прадукцыйнасьці натуральных кармавых угодзьдзяў зьяўляецца важнейшай задачай у веснавую сяўбу. Яшчэ да наступленьня вясны калгасам неабходна апрадзяліць налічча сваіх лугоў і пасьбішч і намеціць парадак іх палепшаньня (веснавое баранаваньне, дыскаваньне, угнаеньне, вапнаваньне, ачыстка ад кочак, кратавін і інш.

*2. Няўдобныя бросавыя землі павінны быць абернуты ў даходныя ўгодзьдзі.*

Як для паляпшаньня лугоў і пасьбішч, так і для прыстасаваньня бросавых зямель у кармавыя ўгодзьдзі, існуюць розныя машыны, якія значна аблягчаюць працу. Трэба імкнуцца, каб гэтыя машыны своечасова здабыць, але адсутнасьць іх не павінна застанаўліваць пачатак гэтых работ у калгасах. Калектыўнай працай з дапамогай сваіх простых пры-



Стада камуны імя БВО.

лад калгасьнікі могуць вельмі шмат зрабіць па палепшаньню сваіх кармавых угодзьдзяў (раскарчоўка, асушка, распашка, умацаваньне пяскоў і інш.).

3. *Устанавіць пэўную чарговасьць страўліваньня пасьцьбішч.*

Гэтым дасягаецца значна большая ўраджайнасьць пасьбішча і эканомія корму. Вучасткі, якія вызваляюцца з-пад выпасу, павінны безакладна баранавацца цяжкімі жалезнымі баронамі і адначасова павінны быць зьнішчаны ўсе сарнякі.

4. *Зрабіць пасевы шматгодніх і аднагодніх траў і караньплодаў.*

Шматгоднія травы неабходна высяваць на спэцыяльных вучастках, дзе яны маглі б без перашкоды прастаяць патрэбны лік год. Насеньні шматгодніх і аднагодніх траў павінны быць высеяны на добра падрыхтаванай зямлі і лепш усяго па глыбокай асеньняй успашцы ці пасьля прапашных культур (караньплоды, бульба, кукуруза, сланэчнік і інш.). Гэта ўмова асабліва важна для засушлівых раёнаў. Буйныя калгасы павінны імкнуцца к таму, каб засеў траў і караньплодаў на кожную галаву буйнай рагатай жывёлы складаў ня менш 0,2 гектары і на кожную дарослую сьвіньню ня менш 0,02 гектары.

5. *Трэба зрабіць спэцыяльныя пасевы расьлін на сілас* (кукуруза, сарго, сланэчнік, суданка і інш.).

Сіласаваньне кармоў мае надзвычайна важнае значэньне ў вырашэньні кармавога пытаньня і яму павінна быць зьвернута вялікая ўвага.

Для сіласаваньня гэтыя расьліны высяваюцца на добра падрыхтаванай зямлі, як і на зерне, але некалькі гусьцей, і прыбіраюцца ў пэрыядзе ці малочнай сьпеласьці зерня (кіяхі, сорго, суданка), ці ў поўным цьвяту (сланэчка).

Як мінімум на сіласаваньне трэба высяваць па 0,1 *га* на кожную галаву буйнай рагатай жывёлы ў калгасах.

6. *Зрабіць пасевы кармавых культур, галоўным чынам бабовых* (віка, гарох, конскі боб, фасоля, соя і інш.) *на зерне для корму.*

Гэтае мерапрыемства асабліва важна для павялічэньня бялковага кармленьня жывёлы замест недастаючых нам жыроў, вотрубяў і іншых моцных кармоў.

7. *Арганізаваць вучасткі кармавых культур на насеньне.*

Недахоп насеньня кармавых расьлін прымушае кожны жывёлагадоўчы калгас застрахаваць сябе на бліжэйшыя гады насеньнем шляхам ўласнай вытворчасьці ўнутры сваёй гаспадаркі.

**Агранам Р. М.**

# „ЦЭЛАРЭЗ“ ЯК КОРМ ДЛЯ ЖЫВЁЛЫ

У 1929 г. Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытутам Сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна была праведзена экспэдыцыя па вывучэньні буйнай рагатай жывёлы Беларусі. Па характару сваёй працы рэгістратарам экспэдыцыі даволі блізка прыходзілася падыходзіць да паасобных гаспадарак і іх запатрабаваньняў. а таксама і да тых прыёмаў, з дапамогай якіх селянін задавальняў запатрабаваньні сваёй гаспадаркі.

Пры больш дэталёвым разглядзе шмат з гэтых прыёмаў застанаўлівалі на сябе ўвагу сваёю, практычнасьцю, бо яны непасрэдна выцякалі з мясцовых умоў і былі да іх даволі моцна прыстасаваны. Мімаволі напрашвалася думка аб тым, каб скарыстаць гэтыя прыёмы, дадаючы да іх навуковае абаснаваньне і ўдасканаліўшы тэхніку правядзеньня самага мерапрыемства.

Так, рэгістратары, якія працавалі на Мазыршчыне, даволі часта прыходзілася чуць пра расьліны „Вадзяны асот“ (Петрыкаўскі раён) „Рэзак“, „Рэзьнік“ (Юравіцкі раен), пры дапамозе якіх некаторыя з гаспадарак спрабавалі ўвязаць кармавы балянс у сваёй гаспадарцы. Пры больш дэталёвым азнаямленьні аказалася, што пад гэтымі рознымі назвамі сяляне розных мясцовасьцяй разумеюць па сутнасьці справы адну і тую-ж расьліну, вядомую батаніку пад назвай—„Цэларэз“ сабуравідны з сямейства вадакрасаў. Расьліна гэтая расьце ў пачынаючых зацягвацца вазёрах, старыцах, балотах, часта амаль што не цалкам запаўняе старыя заплываючыя былыя магістральныя абсушальныя канавы і другія вадазборы са стаячай або павольна бягучай вадой.

Гэта адзін з найбольш вядомых і найбольш распаўсюджаных у сярэдняй паласе СССР прадстаўнікоў сямейств вадакрасавых.



Удой малака ад абагуленай жывёлы (Калгас Энгельс, Уваравіцкі раён).

Сустракаючы „Цэларэз“ і раней у межах былой Бранскай акругі (Трубчэўскі раён), нам ніколі ня прыходзілася чуць там аб тым, каб гэты „Цэларэз“ мясцовыя сяляне тым ці іншым спосабам скарыстоўвалі-б у сваіх гаспадарках у якасьці кармавога сродку. На „Цэларэз“ глядзелі там, як на ліха, якое перашкаджала рыбнай лоўлі, купаньню і г. д. Сяляне Мазыршчыны падыйшлі к „Цэларэзу“ з другога боку і пачалі скарыстоўваць яго як корм для жывёлы. Скарыстаньне „Цэларэзу“ там усё больш і больш пашыраецца. Так у в. Кажушкі, Юравіцкага раёну, каля 50 процантаў абсьледаваных экспэдыцыяй гаспадарак увялі ўжо ў лік кармоў і „Цэларэз“.

У сярэднім кожная з гэтых гаспадарак (як высьвятліў апрос) давала „Цэларэз" жывёле ня менш як 60 дзён у гаду.

У час працы ўдзельнікаў экспэдыцыі в. Кажушкі налічвала 231 гаспадарку. Гэтая лічба гаворыць аб тэй значнасьці, якую мае „Цэларэз" для гэтай вёскі.

Сяляне Кажушкоў зaвяраюць, што карыстацца „Цэларэзам", як кормам пачалі ў іх весцы амаль што ня з 1922 году. Падштурхнула іх да гэтага тая ахвота, з якой жывёла паядала гэтую расьліну, калі яна выпадкова пападалася ёй. З 1922 г. „Цэларэз", як корм у гэтай вёсцы пачынае набываць права грамадзянства і гэта, ня гледзячы на тое, што гаспадары, па іх уласнаму выразу, „сароміяцца" карміць „Цэларэзам" сваю жывёлу, бо гэта служыць як-бы паказчыкам таго, што гаспадар, які ўжывае „Цэларэз" на корм, дрэнна вядзе сваю гаспадарку (нехапае корму).

Шкодных вынікаў ад страўліваньня жывёлай „Цэларэзу" сяляне пакуль-што не назіралі, але-ж яны шмат разоў ставілі перад рэгістратарамі пытаньне:

— Ці шкодзен „рэзак" для жывёлы?

Відаць, што няўпэўненасьць у гэтым затрымлівала частку гаспадароў ад прыстасаваньня „Цэларэзу", як корму для сваёй жывёлы.

Назву сваю „Цэларэза", „Рэзьняка", „Вадзянога асота" і г. д. гэтая расьліна відаць атрымала за сваё лісьце, якое сабрана ў прыкарнявую разэтку. Лісьце на ўсім сваім працягу мае калючыя зубчыкі, але-ж зубчыкі гэтыя ня так ужо і калючы, бо ўся расьліна вельмі вадзяніста. Лісьце пры аснаваньні некалькі жалобчатыя, а к канцу завостраныя. Сьцябло з паўзучым, кароткім парасткам. Кветкі даволі буйныя, белыя, сабраны ў суквецьці, якія выступаюць з вады Расьліна шматгадовая.

Большую частку году „Цэларэз" праводзіць на дне, прымацоўваючыся да яго сваімі карэньнямі. Два разы за лета расьліна ўсплывае на паверхню вады (адзін раз у час кветкаваньня—ліпень месяц і другі раз у канцы жніўня, калі зряўлявцца маяады вазэткі).

Гэтыя маладыя разэткі аддзяляюцца ад расьліны—маткі, падаюць на дно вадазбору, перазімоўваюць там і даюць вясной новыя экзэмпляры „Цэларэзу".

Па зьвесткax сялян, „Цэларэз" у в. Кажушках скарыстоўваецца такім чынам. Лісьце і корні страўліваюцца буйнай рагатай жывёлай, „храпкі" даюцца сьвіньням. Авечкі з прыемнасьцю паядаюць яе ва ўсякім выглядзе (сухім і з сечкай). Лісьці і корні страўліваюцца буйнай рагатай жывёлай з саламянай сечкай.

Зімой сяляне езьдзяць на вазёры і канавы, робяць у лёдзе прорубі і дастаюць адтуль асобымі граблямі „Цэларэз". Затым „Цэларэз" прывозіцца ў гаспадарку, дзе яго, перад дачай жывёле, запарваюць (каб адтаяў) і мяшаюць з рэзкай, або запарваюць і абліваюць варанай бульбай (растоўчанай і разьмешанай у гарачай вадзе.) Сьвіньням „Цэларэз" даецца рэдка.

Некалькі аналізаў, зробленых катэдрай агульнай Зоотэхнікі Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, ў сярэднім даюць такі састаў „Цэларэзу": вады 93,63, залы—1,10, абалоніны—0,78, бялку—0,71, тлушчу—0,21, безазотных экстрак. матэрый 0,38 процантаў.

БССР багата балотамі, па якіх расьце шмат „Цэларэзу". Сяляне самі ўжо становяцца на шлях скарыстоўваньня „Целарэзу" ў сваёй гаспадарцы. Аграномам і дасьледчыкам неабходна паставіць гэты вопыт сялян на навуковыя рэйкі. Гэтыя досьледы павінны адказаць на цікавыя для сялян запытаньні „ці шкодны рэзак для жывёлы", які яго ўплыў на якасьць і колькасьць прадукцыі (малака, сала і г. д.), як яго найбольш рацыянальна скарыстаць і г. д.

Нам здаецца, што „Цэларэз" мажліва было-б скарыстаць і ў якасьці сіласаванага корму.

Неабходна ацаніць „Цэларэз", як кармовы сродак і паставіць яго на належнае месца сярод шэрагу іншых кармоў у нашых калектыўных гаспадарках, асабліва жывёлагадоўчых.

**Аграном А. М. Сяргееў.**

# ЯК СКАРМЛІВАЦЬ МЯЗГУ І БРАГУ

Мязга—гэта адкіды крухмальнай або патачнай прамысловасьці. Пры выпрацоўцы крухмалу з бульбы выцісьнуць увесь крухмал немагчыма. Частка яго застаецца нявыціснутай, зьмешаная з валокнамі бульбы, разьведзеная вадой і прадстаўляе сабой мязгу.

Так як мязга мае ў сабе некаторую колькасьць спажыўных сокаў, то яе трэба скарыстаць для корму жывёлы. На заводах зьбіраюцца вялікія масы мязгі. Прымаючы гэта пад увагу, ёсьць імкненьне як больш скарыстаць яе для скармліваньня жывёлы, але няўважлівае і няўмелае скармліваньне мязгі выклікае захворваньне жывёлы (выкідыш, хвароба ног, паносы).

Для скармліваньня мязгі трэба мець на ўвазе наступнае: мязга пры выхадзе з заводу вельмі вадзяністая і хутка псуецца (сухой матэрыі ў ёй толькі 6 проц.).

Перш за ўсё трэба з мязгі выцісьнуць частку вады, для гэтага, калі зьбіраюць мязгу, трэба класьці яе ў кошыках, або ў скрынках з дзірчатымі сьценкамі, наверх кладуць дашчаты шчыт, які павінен свабодна ўваходзіць у сярэдзіну кошыка або скрынкі і на гэта кладуць які-небудзь цяжар. Частка вады сьцякае праз дзіркі скрынкі або кошыка. Так прэсаваць мязгу трэба ў працягу 4—6 гадзін. Кошыкі або скрынкі для адціскаsucceededньня мязгі трэба рабіць на калёсах, каб адціснутую мязгу можна было адвазіць у гэтых самых кошыках або скрынках на скотны двор для скармліваньня.

Скармліваць мязгу трэба ў той-жа дзень, як яна атрымоўваецца, бо мязга псуецца і можа прынесьці вялікую шкоду жывёле. Ляпей за ўсё мязгой карміць буйную рагатую жывёлу. У пачатку жывёла есьць мязгу ня вельмі добра, але хутка прызвычайваецца да яе і есьць з ахвотай. Для першага разу мязгі можна даваць 15—20 *кг* на галову, тым часам грубага карма ў дзень трэба даваць ня менш як 6—8 *кг* (пры вазе жывёлы 500 *кг*). Значна большая колькасьць дачы мязгі ўжываецца бяз шкоды для здароўя жывёлы пры скарыстаньні яе гатаванай або прапаранай і зьмешанай з грубым кормам. Гатаванай гарачай мязгой запарваюць рэзаную салому. Рэзку спачатку добра прасальваюць. Запарку трэба рабіць у асобных чанах або скрынках, пры чым зьмешваньне рэзкі з мязгой робяць праз пласт.

Можна і зрабіць так: сьвежую мязгу зьмяшаць з пасоленай рэзкай, потым гэту масу варыць у запарніку; скармліваць гэты корм трэба тады, калі ён яшчэ цёплы, але сачыць, каб ня быў гарачы.

Дачу прыгатаванай мязгі можна давесьці на 60 *кг* на галаву. Дзеля таго, каб мязгу захоўваць на доўгі час, а потым ужо расходваць па частках, трэба яе сіласаваць. Пры сіласаваньні яна кісьне. Такая кіслая мязга для здароўя жывёлы ня шкодна.

Сіласаваць мязгу можна толькі прэсаваную, у якой зьмяшчаецца ня менш 14—15 проц. сухой матэрыі.

Для сіласаваньня мязгі будуюцца ямы, або траншэі, глыбінёю ў 2—5 мэтраў, іх абкладваюць цёплай або іншым матэ-



Жарабец рысак арцелі „Іскра“.

рыялам. Ямы патрэбна рабіць з прапускаемым грунтам, каб частка вады праходзіла ў глебу. Дно ямы трэба дрэнаваць.

Малочнай жывёле можна даваць на галаву ў дзень 25 *кг* сьвежай мязгі. Трэба мець на ўвазе, што мязга зьмяшчае ў сабе мала вапняку і бялку. Таму, калі даюць мязгу, трэба дабаўляць на галаву па 50—80 грам крэйды і скармліваць у сутачнай дачы. Даволі даваць такія кармы, як бабовае сена, высеўкі і жмыхі. Адкормачным сьвіньням можна даваць да 10 *кг* сырой мязгі. Пры вялікіх дачах мязгі, кал жывёлы робіцца жыдкім. Для таго, каб ня было бруду ў хляве жывёлы, трэба ўжываць тарфяную падсьцілку.

Барда—гэта адкіды браварнай прамысловасьці. Пры вінакурэньні ў сьпірытус пераходзіць у крухмал і іншыя падобныя да яго матэрыі. Бялкі, якія заўсёды адсутнічаюць у карму нашай жывёлы, усё застаюцца ў бардзе. У сувязі з гэтым барда зьяўляецца вельмі каштоўным кармом для жывёлы.

Барда як і мязга вадзяністая, яна мае 6—10 проц. сухіх рэчаў, але выціскаць з яе ваду, як з мязгі, ня трэба, бо шмат спажыўных матэрыялаў знаходзіцца ў вадкасьці. На заводзе яна атрымоўваецца гарачай. Доўга трымаць яе нельга, а трэба адразу астудзіць да 25—30 градусаў і даваць жывёле, як пойла. Барду як і мязгу можна запарваць. Робіцца эта такім чынам: бярэцца саламяная рэзка і запарваецца гарачай бардой, пры чым запарваць трэба гарачай бардой, а ня цёплай, бо ад цёплай уся гэта маса закісьне і тады яна шкодна для жывёлы. Запараную бардой салому трэба скласьці ў скрынкі і добра зачыніць драўлянымі покрыўкамі або саломай.

Перакармліваньне і няўмелае скармліваньне барды вядзе к хваробам жывёлы, як-та: выкіды, унутраныя хваробы і хвароба ног, — бардзяная макрыца. Барду патрэбна пачаць скармліваць з 20—25 *кг* і пры паступовым прывучэньні магчыма норму павялічыць да 100—125 *кг* (пры вазе жывёлы 500 *кг*). Каб жывёла піла больш барды, трэба ў сухі корм дадаваць солі да 100—120 *г*. Малочнай жывёле можна даваць да 60 *кг* барды (пры паступовым прывучэньні), адкормным сьвіньням да 25 *кг*, коням пры лёгкай працы 10—35 *кг*. Пры кармленьні бардой трэба паклапаціцца, каб пасудзіна, у якой перавозіцца барда з заводу і кармушкі, з якіх яна скармліваецца, былі чыстыя. Пасуду, у якой скармліваюць барду, раз у пяцідзёнку, патрэбна добра прамываць і бяліць вапнай. Жывёле, якой даюць барду, патрэбна ў дастатковай колькасьці даваць грубыя кармы, чыста ўтрымоўваць стойла; добра ўжываць у падсьцілку торф. Пры захоўваньні гэтых правіл, пры дачы сьвежай барды, жывёла захворваць ня будзе.

Пры кармленьні бардой патрэбна даваць на кожную галаву 50—100 *г* крэйды. Барду таксама можна сіласаваць. Для гэтага барду патрэбна выпарыць, так, каб яна стала ў два разы гусьцей, чым яна была, потым зьмяшаць з саламянай рэзкай і засіласаваць. Магчыма таксама і замаражваньне барды: для гэтага робяць з гліны пляцоўку з такімі-жа сьценкамі ў 10—20 *см* вышынёй і наліваюць туды барду на 5—7 *см*. Пасьля замярзаньня гэты слой барды складваюць у роўную кучу. Шчыліны паміж складзенымі кускамі заліваюць бардой. Гатовая куча добра закладваецца саломай.

Барда бывае бульбяная і хлебная, у залежнасьці ад матэрыялаў, якія ідуць на вінакурэньне. Бульбяная барда заключае ў сабе менш каштоўных для жывёлы матэрый, чым хлебная, яна больш вадзяніста, ня мае столькі бялка і часьцей выклікае хваробу.

Асабліва шкодная барда, якая атрымоўваецца з пагніўшай бульбы.

**Е. Кліменціч.**

# Да ўсіх аграномаў Беларусі.

Пасьля сканчэньня сельска-гаспадарчага тэхнікуму ў чэрвені 1924 г. я быў накіраван на працу ў адсталы Глускі раён.

У той час, калі значная частка нашых аграномаў, у шуканьні лепшай пэнсіі, перабягала з аднаго месца на другое, я ўвесь гэты час заставаўся працаваць у адным раёне і таксама ў наступны час, улічваючы недахоп аграпрацаўнікоў, важнасьць і адказнасьць агранамічнай працы ў перабудове сельскай гаспадаркі на новы сацыялістычны лад як у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі, так і ў апошнім чацьвертым годзе пяцігодкі, я замацаваў сабе на гэтай працы да канца пяцігодкі.

Я буду змагацца за перавыкананьне пляну пяцігодкі. Да гэтага прызываю і ўсіх аграномаў Беларусі.

Аграном Глускага райкалгассаюзу **Алесь Дымкоў.**

---

## *ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.*

*Русовіч Віктар* (Заслаўскі раён). Вашы допісы: „Выехаць у поле мы гатовы“, „З будаўніцтвам справімся“, „Няма належнага кіраўніцтва“ перададзены ў газэту „Калгасьнік Беларусі“. Пішыце артыкулы больш апрацаваныя, замест асобных заметачак.

*Самчыка Трахім* (Шклоўскі раён). Матэрыял ваш спазьніўся, пішыце аб тым, як акаляючыя калгасы падрыхтаваліся к веснавой сяўбе.

*Мікалай Войтка* (Смалявіцкі раён). Дасланы матэрыял будзе зьмешчан у бліжэйшых нумарох. Пішыце яшчэ.

*Карлоўскі Янка.* Ваш допіс ня пойдзе. Дробязь, зьмясьціце гэты матэрыял у насьценгазэту.

*Сімкін Б. М.* Дасланы матэрыял аб складаньні гадовай справаздачы пойдзе. Пішыце аб веснавой сяўбе.

*Ігнацёнак.* Ваш допіс „Уся ўвага рабоце па калектывізацыі“—агульны. Ня пойдзе. Пішыце лепш аб тым, як у вас справа з калгасным прылівам к веснавой пасеўкампаніі.

ЦАНА 15 кап.



Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі“**

## Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў

**Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць**

**ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТО-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | — 24 нумары. | . . 3 руб. | |
| „ 6 мес. | — 12 „ | . . 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ | — 6 „ | . . — — | 75 „ |
| „ 1 „ | — 2 „ | . . — — | 25 „ |

**Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу**

Адрас рэдакцыі часопісу:

*г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.*